**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 01 (874) 5 снежня 2017 года.**
**Кошт свабодны.**

*Са светлым святам Нараджэння Хрыстова!*



Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by





**Падача абвестак па тэлефоне № 166**











# Сацыяльныя пытанні заўсёды былі і будуць у цэнтры ўвагі ў Беларусі – Лукашэнка

**У Беларусі сацыяльныя пытанні заўсёды былі, ёсць і будуць у цэнтры ўвагі.**

Аб гэтым Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка заявіў журналістам, адказваючы на пытанне карэспандэнта БелТА. Кіраўнік дзяржавы, тлумачачы прычыны апошніх кадравых назначэнняў у кіраўніцтве Адміністрацыі Прэзідэнта, якія сведчаць аб упоры на сацыяльны блок, падкрэсліў: "У любой дзяржаве, а мы дэкларуем сацыяльна арыентаваную дзяржаву, дзяржаву для народа, галоўнае – гэта людзі. Усе гэтыя, як я часта кажу, гайкі, балты, эканоміка тады нечага каштуе, калі гэта робіцца дзеля людзей. Калі робіцца не для людзей, то не патрэбна і такая эканоміка, і не трэба такая дзяржава народу. Таму - усё дзеля людзей". Аляксандр Лукашэнка запэўніў, што і ў далейшым сацыяльным пытанням у краіне будзе ўдзяляцца самая пільная ўвага.

*БелТА.*



# Насельніцтва Беларусі вырасла яшчэ на 5 тысяч чалавек

Паводле дадзеных Белстата, па стане на 1 кастрычніка 2016 года насельніцтва Беларусі дасягнула **9 505 200** чалавек. Гэта на 5 тысяч чалавек больш, чым было ў сярэдзіне года.

Дзякуючы цяперашняму прыросту, колькасць насельніцтва аднавілася да ўзроўню 2009 года.

*Белстат.*



## МНС інфармуе

**на 03.01.2017 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 7;
Гібель людзей – 0, з іх 0 дзяцей;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 0;
Гібель людзей – 0, з іх дзяцей няма
За 2016 год у раёне адбылося 20 пажараў, на якіх загінулі 6 чалавек.



ISSN 2077-8023
9 772077 802009 10001

Талачынскі раён

# Школа заўтрашняга дня

■ Чэслаў Якубовіч.

**Як бы складана ні было ў краіне з фінансамі, але ўсё самае лепшае будзе рабіцца для дзяцей.**

Адной з самых значных падчас штогадовай акцыі "Нашы дзеці" стала ўрачыстае адкрыццё пасля капітальнай рэканструкцыі СШ № 2 у Талачыне. У гэтым райцэнтры калісьці гэта школа была драўлянай, потым у алімпійскім 1980 годзе на яе месцы пабудавалі новую, якая за столькі часу даволі сур'ёзна знасілася і патрабавала рамонту. На шчасце, яе з падобнай школай у Дуброўне ўключылі ў праект абнаўлення, які ажыццяўляецца з дапамогай Міжнароднага банка рэканструкцыі і развіцця. Пастараліся і будаўнікі славутай Круглянскай ПМК № 266, якія за 4 месяцы працы выканалі вялізны аб'ём работ коштам 17 млрд. старых рублёў. За такія сродкі будынак школы, які зноў прыняў 752 вучні, змяніўся і быццам памаладзеў. Тут замянілі ўсе камунікацыі, вокны і дзверы, аснасцілі па апошняй модзе сталовую, кабінеты, актавую і спартыўную залы. На ўрачыстасці спецыяльна прыехаў глава вобласці Мікалай Шарстнёў і ўручыў школе сертыфікат у суме 150 тысяч рублёў у новых цэнах. Па ягоным даручэнні ў школе з'явіцца найноўшы камп'ютарны клас, кабінеты хіміі і біялогіі па апошнім слове тэхнікі. Гэта павінна дапамагчы школьнікам стаць высокаадукаванымі людзьмі, бо вучыцца ў новенькіх светлых і ўтульных класах стала вельмі прыемна. У гэтым пераканаліся госці ўрачыстасцей падчас экскурсіі па школе, у якой цяпер з'явілася шмат сучасных мультымедыйных сродкаў навучання.

Браслаўскі раён

# Вось дык "пакатаўся"

■ Станіслаў Раманчук.

**Вось што адрознівае асобных суайчыннікаў на падпітку, у такім стане яны перастаюць кантраляваць свае паводзіны.**

З такой нагоды дзіўны малюнак давялося назіраць днямі ў выхадны дзень жыхарам Браслава. Каля апоўдні па вуліцы Садовай, віляючы з боку ў бок па дарозе, ехаў аўтапагрузчык. Як высветлілася потым, гэту тэхніку самавольна ўзяў у будаўнічай пляцоўкі ля ўзводзімага новага будынка філіяла "Беларусбанка" супрацоўнік з адной з арганізацый абласнога цэнтра. Віцяблянін знаходзіўся тут у камандзіроўцы, не ведаў, чым заняцца і вырашыў такім чынам проста "пакатацца". У выніку гора-кіроўца стаў вінаўнікам адразу трайнога ДТЗ. У нецвярозым стане ён спачатку пратараніў першы прыпаркаваны на краі дарогі легкавы аўтамабіль. Замест таго, каб спыніцца, угоншчык паехаў далей. Яго хацелі затрымаць супрацоўнікі Дзяржаўтаінспекцыі, але госць азёрнага краю паспрабаваў ад іх уцячы і павярнуў у адзін з завулкаў. На сваю бяду ездзіць ён не ўмеў, бо і вадзіцельскімі правамі не абзавёўся. Не дзіўна, што без навыкаў кіроўцы мужчына пратараніў яшчэ адну легкавушку, а потым знёс і плот прыватнай забудовы. Толькі пасля гэтага аматара прыгод міліцыя затрымала і пачала расследаванне прыкрага інцыдэнту, у якім, на шчасце, людзі не пацярпелі. Дарэчы, такія здарэнні пачасціліся. На Браслаўшчыне ў лістападзе жыхар гарпасёлка Відзы заявіў пра ўгон свайго аўто. "Угоншчыкам" у той дзень аказаўся яго сабутэльнік, які ўзяў самавольна машыну, з'ездзіў у магазін за дабаўкай. Пазней ён вярнуў аўтамабіль на месца, але ўсё роўна будзе адказваць за ўгон транспартнага сродку.

Полацкі раён

# Выжылі, а ці надоўга?

■ Кастусь Александровіч

**Адчувальны крызіс у беларускай эканоміцы апошнім часам моцна адбіўся і на айчынным спорце.**

Раней за іншых адчуў гэтыя цяжкасці футбольны клуб элітнага дывізіёна "Нафтан" з Наполацка. Яшчэ летась 10 вядучых былых ігракоў каманды падалі ў суд за вялікія запазычанасці за зарплаце і прэміяльных па выніках папярэдняга сезона, у якім яна заняла высокае 5-е месца ў вышэйшай лізе. Калі з фінансамі ў асноўнага спонсара клуба, гіганта нафтаперапрацоўкі было ўсё ў парадку, навапалачане двойчы выйгравалі Кубак Беларусі, даволі паспяхова гулялі ў еўракубках. Аднак у гэтым годзе "Нафтан" застаўся без многіх сваіх ранейшых лідараў, а летам і без галоўнага трэнера, толькі цудам у апошнім туры дзякуючы перамозе ў выязным матчы ў Гродне пазбег вылету ў 1-ю лігу. Аднак хоць прапіску ў эліце футбольная каманда нафтаграда захавала, яе многія праблемы засталіся. У выніку адпаведны камітэт АБФФ за непагашаныя даўгі зняў з ФК "Нафтан" 3 ачкі ў будучым чэмпіянаце краіны 2017 года. Горш таго, калі сітуацыя не зменіцца, то да канца студзеня з клуба знімуць яшчэ 1 ачко, а да канца сакавіка ў турнірнай табліцы будзе мінус 6 ачкоў. Праўда, каманда здолела зарабіць 100 тысяч долараў ад трансфераў, яна прадала двух лепшых свах маладых ігракоў у Барысаў і Брэст. Аднак калі тут далей не будзе каму гуляць, то лёс яўных аўтсайдараў першынства навапалачанам гарантаваны.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 05.01.17 | | | | Пятніца 06.01.17 | | | | Субота 07.01.17 | | | | Нядзеля 08.01.17 | | | | Пан. 09.01. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -9 | -12 | -13 | -13 | -14 | -15 | -15 | -17 | -18 | -20 | -17 | -22 | -22 | -18 | -14 | -16 | -15 | -18 | -17 |
| Ціск | 731 | 735 | 742 | 747 | 752 | 755 | 758 | 759 | 759 | 756 | 755 | 753 | 752 | 751 | 751 | 750 | 749 | 748 | 749 |
| Вецер м/сек | 8 Пн | 8 Пн | 7 Пн | 7 Пн | 6 Пн | 4 Пн | 3 Пн | 2 Пн | 2 Пн | 1 Пн | 1 Пд | 3 Пд | 3 Пд | 3 Пд | 3 Пд | 2 Пд | 0 ШТЛ | 1 У | 2 У |
| Вільготнасць | 92 | 93 | 92 | 92 | 88 | 89 | 88 | 93 | 94 | 98 | 95 | 98 | 98 | 89 | 87 | 93 | 91 | 93 | 89 |

# Аб самым надзённым

## ПАСЛЯ РАСПАДУ СССР У БЕЛАРУСІ НЕ АТРЫМАЛАСЯ ПАКУЛЬ СТВАРЫЦЬ ЭФЕКТЫЎНУЮ ЭКАНОМІКУ ПА САВЕЦКАЙ МАДЗЕЛІ ГАСПАДАРАННЯ



■ Аляксандр Цішкевіч.

**Жыццё беларусаў у многім адрозніваецца ад мінулай эпохі "развітага сацыялізму". Аднак, па падліках спецыялістаў, жыццёвы ўзровень многіх слаёў насельніцтва па-ранейшаму застаецца даволі нізкі. Зараз у Беларусі працягваецца адчувальны эканамічны спад.**

Ніхто не стане аспрэчваць, што так хутка ляціць цяперашні час, а падзеі сусветнай гісторыі разгортваюцца вельмі дынамічна. Ужо ў школьных падручніках гісторыі нашы дзеці з ўнукі чытаюць, як чвэрць стагоддзя назад на беларускай зямлі ў Віскулях лідары трох славянскіх рэспублік падпісалі пагадненне аб распадзе тагачаснай звышдзяржавы – СССР. Больш маладое пакаленне гэту падзею цьмяна памятае, а вось мяне 25 гадоў назад яна парадавала. Ва ўсялякім разе для Беларусі, тады думалася, адкрылася перспектыва атрымання рэальнага суверэнітэту, свабоды і незалежнасці, хацелася жыць інакш, без пастаяннага дэфіцыту, чэргаў і фальшывых лозунгаў.

Адэкватным людзям былі зразумелы прычыны крушэння савецкай імперыі, асабіста я на рэферэндуме вясной 1991 года, у адрозненне ад многіх землякоў, за захаванне Саюза не галасаваў. Ды і зусім нядаўна беларускі лідар А. Лукашэнка шчыра па гэтай тэме выказаўся: " Причина распада Советского Союза? Да не сочиняйте ничего – стирального порошка не хватало. Мне жалко было смотреть на женщин в очереди, да и сам не единожды стоял…" Сапраўды, нікуды не дзецца ад таго факта, што савецкая планава-камандная эканамічная мадэль зайшла тады ў тупік, прайграла саперніцтва і гонку ўзбраенняў падчас "халоднай вайны" Захаду, дзе ўзровень жыцця быў і застаецца значна больш высокім, чым у нас.

З таго часу лёсы былых савецкіх рэспублік і краін савецкага лагера склаліся пароznаму. Вось прыбалтыйскія народы ажыццявілі сваю мару, вярнуліся назад у Еўропу, хоць жыццё там для многіх не мёд. Але ж нашы суседзі-літоўцы зарабляюць цяпер у 2 разы болей беларусаў, не кажучы ўжо пра палякаў з зарплатамі пад тысячу еўра ў месяц. Праўда, на беларускай зямлі стаяць тысячы помнікаў Леніну, захаваліся старыя камуністычныя назвы, ранейшыя гіганты індустрыі і ў многім ранейшыя падыходы ў эканоміцы, але хоць полкі магазінаў змяніліся, значна прыбавілася легкавых аўтамабіляў у людзей.

Жыццё беларусаў у многім адрозніваецца ад мінулай эпохі "развітага сацыялізму". Аднак, па падліках спецыялістаў, жыццёвы ўзровень многіх слаёў насельніцтва па-ранейшаму застаецца даволі нізкі. Зараз у Беларусі працягваецца адчувальны эканамічны спад. Даволі значна сёлета скараціўся выпуск беларускіх нафтапрадуктаў, а гэта для краіны – залатая жылка. У айчынным машынабудаванні – таксама сур'ёзны рэгрэс, а гэтай галіной мы здаўна ганарыліся. На большасці заводаў і фабрык працягваецца зніжэнне заробкаў. Знайсці працу асабліва ў глыбінцы стала няпроста, расце беспрацоўе, невыпадкова паставілі задачу ствараць штогод да 50 тысяч новых працоўных месц.

Як вядома, новаяўленых "дармаедаў" вырашылі пасля нарады ў Мінску пакуль не штрафаваць, але кіраўнік дзяржавы не стаў адмяняць гэты Дэкрэт, які з'явіўся не ў самы спрыяльны час. З аднаго боку за 25 гадоў у Беларусі ўдалося стварыць моцную у адміністрацыйным плане дзяржаву, яе вертыкаль працуе зладжана, на вуліцах чыста, знешне бачцам парадак. Аднак стварыць такі ж надзейны эканамічны фундамент яўна не атрымалася, вылазіць зараз бокам стаўка на савецкую эканамічную спадчыну і на знешнюю дапамогу найперш з боку галоўнага саюзніка, суседняй Расіі. Горш таго, на фінішы гэтага года расійска-беларускія супярэчнасці абвастрыліся.

Невыпадкова з падачы Расіі нам так і не выдзелілі трэці транш крэдыту ЕФСР. Ды і нафтагазавы канфлікт расцягнуўся занадта доўга. Спрэчкі аб справядлівым кошце расійскага газу цягнуліся практычна ўвесь год. Кіраўнік Расельгаснагляду С. Данкверт днямі гнеўна абрушыўся на нашу краіну, абвінаваціў беларусаў фактычна ў кантрабандзе і ў нядобрасумленных паводзінах. Расійскі манапаліст "Газпрам" невыпадкова спыніў будаўніцтва ў беларускай сталіцы свайго офіса-хмарачоса. Беларускі лідар шчыра днямі абураўся падчас сустрэчы з іркуцкім губернатарам, што нават за мяжой пачалі нібыта смяяцца з Еўразійскага саюза, калі ўнутры гэтага аб'яднання зменшыўся тавараабарот.

Вось толькі ніхто беларусаў у карак не гнаў, самі захацелі гуляць у "братэрскую інтэграцыю", нават міфічную "Саюзную дзяржаву Расіі і Беларусі" стварылі. На справе ж з'явіліся апошнім часам значныя бар'еры не без умяшання Крамля на шляху прадаж айчынных тавараў на расійскім рынку. Рэзка павялічылася да 443 млн. долараў адмоўнае сальда знешняга гандлю Беларусі з Расіяй. Стан спраў у беларускай эканоміцы у вельмі многім, сапраўды, залежыць ад сітуацыі ў Расіі. Такі факт даволі непрыемны за чвэрць стагоддзя існавання Беларусі як самастойнай дзяржавы. Калі з крамлёўскай вярхушкай кіраўніцтву Беларусі не ўдасца знайсці кампраміс, то наступаючы 2017 год можа прынесці кожнаму з нас новыя непрыемныя моманты.

## Дзень за днём

**Знешні доўг Беларусі перавысіў 13,5 млрд. USD, краіна наблізілася да зоны дэфолту. Беларусі не выдзелілі 3-ці транш з фонду ЕАЭС у суме 300 млн. USD. Кожнае пятае айчыннае прадпрыемства стала стратным. Экспарт беларускіх нафтапрадуктаў скараціўся на 15 %, а ў Расію – нават у 3 разы. А. Лукашэнка загадаў дапрацаваць Дэкрэт аб дармаедах, але адмяняць не стаў. Ужо больш 1,5 года зніжаюцца заробкі беларусаў. Прайшла комплексная праверка Беларускай АЭС. Карпарацыя "Газпрам" закансерваравала будаўніцтва свайго хмарачоса ў Мінску. Зборная Беларусі па футболе зноў засталася без галоўнага трэнера.**

# Важнейшыя навіны свету

**Францыя.** У тэлевізійным звароце да нацыі прэзідэнт Франсуа Алланд аб'явіў, што не будзе дабівацца перавыбрання на другі тэрмін на выбарах у маі 2017 года.

**Турцыя.** У Анкары сірыйская апазіцыя правяла таемныя перамовы з прадстаўнікамі Расіі ў абыход ЗША па зняцці блакады з Алепа, з Масквой шукаюць кантакты і іншыя сілы.

**Бельгія.** Палітыку ЕС у адносінах Беларусі, як заявіла глава яе дыпламатыі Ф. Магерыні, будуць вызначаць крокі Мінска па павазе правоў чалавека, уключаючы смяротную кару.

**Аўстрыя.** Перамовы Пуціна з лідарамі Ірана і Саудаўскай Аравіі дапамаглі краінам-членам АПЕК дамовіцца аб скарачэннях здабычы нафты, на такі крок пайшла і Расія.

**Англія.** Вядомы вучоны, фізік-тэарэтык Сцівен Хокінг заявіў, што для чалавецтва настаці самыя небяспечныя часы з-за паскарэння эканамічнай няроўнасці, непаразумення класаў.

**Украіна.** Намеснік міністра па справах Данбаса Р. Тука заявіў, што лідараў сепаратыстаў Захарчанку, Плотніцкага, Гіві знішчаць спецслужбы РФ, бо яны занадта шмат ведаюць.

**Расія.** Хоць Пуцін у пасланні Федэральнаму сходу, як заявіла "Независимая газета", ні разу не ўзгадаў Украіну, гэта не дапаможа "замарожанай эканоміцы", З год народ бяднее.

**ЗША.** У выніку няшчаснага выпадку падчас падрыхтоўкі сцэны да прадстаўлення загінуў 43-гадовы сын аднаго са стваральнікаў славутага цырка du Soleil Аліўе Рашэтт.

**Украіна.** Палітолаг А. Палій папярэдзіў, што ўзрасла пагроза анексіі Беларусі з боку Расіі, яшчэ ў 2002 годзе Пуцін прапанаваў раздзяліць гэту краіну на 6 абласцей.

**Фінляндыя.** Пасля перапынку кампанія Nokia зноў пачала выпуск танных мабільных тэлефонаў на аперацыйнай сістэме Android з простым доступам у Інтэрнэт.

**Тайланд.** Пасля 50 дзён жалобы краіну ўзначаліў новы кароль Рама IX, адзіны сын памерлага 88-гадовага былога манарха, задаволіў просьбу тайскага парламента і ўрада.

**Бельгія.** У спіс Сусветнай нематэрыяльнай культуры ЮНЕСКА ўключыла мясцовае піва, якое ў краіне вараць каля 1500 гатункаў, яго выкарыстоўваюць і для вырабу сыроў.

**Расія.** Прама з банкаўскага сховішча ў Маскве злодзеі ўкралі ў вядучага тэлепраграмы "Чалавек і закон", А. Піманава паўмільёна долараў.

**Нарвегія.** Свой тытул чэмпіёна свету па шахматах адстаяў нарвежац М. Карлсэн, яму год дапамагаў у якасці трэнера расійскі апазіцыянер Г. Каспараў, што абурыла СМІ Крамля.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Эканаміст Л. Злотнікаў папярэдзіў, што павышэнне сусветных цэн на нафту будзе нядоўгім, а Беларусь нічога не атрымае ад такога росту цэн на энерганосьбіты.

**Ашмяны.** Толькі праз 9 гадзін чакання ноччу беларускія пагранічнікі і мытнікі прапусцілі праз граніцу аўтобус з 6-гадовымі нашымі дзецьмі, літоўцы патрацілі на гэта паўгадзіны.

**Асіповічы.** Арбітражны суд Масквы пастанавіў спагнаць з мясцовага вагонабудаўнічага заводабанкрута звыш 2,4 мільёна долараў на карысць Еўразійскага банка развіцця за даўгі.

**Мінск.** Міністр абароны А. Раўкоў абверг інфармацыю расійскага палітолага В. Салаўя аб правядзенні сярод афіцэраў закрытага апытання аб аб'яднанні Беларусі з Расіяй.

**Астравец.** Адставанне ад графіка работ па 1-ым энергаблоку АЭС склала 1-3 месяцы з-за недахопу каля 800 будаўнікоў, лепшыя кадры пачалі звальняцца з-за зніжэння зарплат.

**Бабруйск.** Школьніца ва ўзросце 14 год з ВІЧ-інфекцыяй не панясе адказнасці за яе распаўсюджванне, яна паведаміла, што мела палавыя сувязі са старшынёй сельсавета.

**Мінск.** Параўнанне ў СМІ РФ беларусаў з украінцамі, як заявіў палітолаг П. Быкоўскі, стала пачаткам апрацоўкі грамадскай думкі, што Беларусь перастала быць сябрам Расіі.

**Брэст.** На таргі ў снежні фонд "Брэстабласмаёмасць" выставіў на продаж звыш 120 будынкаў і збудаванняў, з пачатку года ў вобласці прадалі 115 аб'ектаў нерухомасці.

**Мінск.** Вядомы вучоны, прафесар М. Кадыраў назваў існуючую сацыяльна-эканамічную мадэль нежыццёздольнай і заклікаў улады як мага хутчэй пачаць яе рэфармаванне.

**Гарадзея.** У бальніцы ад атрыманых моцных апёкаў памёр пасля падзення ў чан з кіпенем падчас высвятлення няспраўнасці 51-гадовы начальнік вытворчасці цукровага камбіната.

**Магілёў.** Следства выявіла, што мясцовага прадпрымальніка летам забілі і забетанавалі ў гаражы яго знаёмыя ў выніку канфлікту з-за падзелу сумесна набытай маёмасці.

**Фаніпаль.** Каля апоўдня ў магазіне "Фабрыка здароўя" агракамбіната "Дзяржынскі" невядомы злодзей украў з курткі 38-гадовага мінчаніна партмане з 3 тысячамі долараў.

**Слонім.** Спецыяльны сейф для захоўвання зброі трэба тэрмінова набыць главе раёна А. Таргонскаму, бо міністр абароны Беларусі А. Раўкоў падараваў яму аўтамат.

**Магілёў.** Вечарам у адной з кватэр затрымалі 22-гадовага мужчыну па падазрэнні ў забойстве з асаблівай жорсткасцю яго аднагадовага сына.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Мёры.** З ходам будаўніцтва металапракатнага завода азнаёміўся і правёў нараду віцэ-прэм'ер урада Беларусі У. Сямашка, каб наверстаць адставанне ад графіка работ.

**Віцебск.** З-за эканамічнага крызісу абласны бюджэт па выніках 2016 года недаатрымае амаль 44 мільёна рублёў, яшчэ на 80 мільёнаў зменшыліся датацыі з нацыянальнага бюджэту.

**Орша.** Плаўленыя сыркі мясцовага сырзавода і мясныя кансервы для дзіцячага харчавання Аршанскага МКК сталі пераможцамі нацыянальнай прэміі спажыўцоў "Народная марка".

**Віцебск.** Мясцовыя вучоныя-медыкі ўпершыню паспяхова правялі аперацыю па трансплантацыі печання, праўда, пакуль у парадку эксперыменту на свінні.

**Браслаў.** Філіял Глыбоцкага МКК "Браслаўрыба" наладзіў закупкі марской рыбы з Крыма і давёў асартымент рыбных кансерваў да 32-х найменняў, пачаў мантаж новай ліні.

**Віцебск.** У абласным кардыялагічным цэнтры адкрыўся новы сучасны ангіографічны кабінет, штогод тут будуць рабіць да 1,5 тысяч хірургічных аперацый на сасудах сэрца.

**Мёры.** На базе раёна прайшоў у райаграсервісе і ў ААТ "Чэрасы" абласны семінар-нарада па падрыхтоўцы сельскагаспадарчай тэхнікі да веснавых палявых работ у 2017 годзе.

**Глыбокае.** Абласная пракуратура выявіла ў раёне і іншых рэгіёнах вобласці парушэнні заканадаўства пры прызнанні асобных дамоў, непрыгоднымі для пражывання.

**Паставы.** Работнікаў райаграсервіса і ААТ "Блакітныя азёры" засмуціла, што 2 гады працы не залічаць ім у стаж для налічэння пенсій, год "згубілі" 4 гаспадаркі і льнозавод.

**Віцебск.** Днём ля Кіраўскага маста сутыкнуліся некалькі машын, у тым ліку аўтамабілі міліцыі і хуткай дапамогі, пашкоджанні атрымаў супрацоўнік дэпартамента "Ахова" МУС

**Верхнядзвінск.** Сям'я прадпрымальнікаў Вольгі і Міхаіла Кавалёнкаў купіла былую фірменную краму хлебазавода, зрабіла ў ёй рамонт і адкрыла новы магазін "Эканом плюс"

**Полацк.** З памяшкання цэнтральнай бібліятэкі імя Ф. Скарыны эвакуіравалі 63 чалавекі, калі там у архіве ўзнік пажар, агонь пашкодзіў падлогу, праводку, закапціў сцены і кнігі.

**Докшыцы.** Вучні Крулеўшчынскай СШ ажыццявілі пешы паход па памятных мясцінах Вялікай Айчыннай вайны, наведалі мемарыяльныя комплексы "Дальва" і "Хатынь".

**Орша.** Вечарам у 21.50 гадзіны каля вёскі Зубава 28-гадовы кіроўца УАЗа не справіўся з кіраваннем, зляцеў у кювет, ударыўся ў дрэва і загінуў на месцы аварыі.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Што вы чакаеце ад 2017 года?

**З надыходам Новага года людзі звычайна звязваюць новыя мары, чаканне нечага лепшага, радаснага. А што чакаюць ад новага года жыхары Глыбоччыны спрабавалі высветліць карэспандэнты «Вольнага Глыбокага».**



**Вольга Гінько, дырэктар Празароцкай школы:**
– Новы год, Каляды, каб Бог абараняў ад дрэннага, ад злога. Каб у кожнай хаце, і на покуце, і ў душы чалавека быў Бог, каб ён нам дапамагаў у першую чаргу. Каб Новы год прынёс нам дабрабыт, здароўе, шчасце ў сем'ях. А пакольκі з'яўляюся дырэктарам школы, хацелася б, каб былі шчаслівыя нашы дзеці. І каб у іх была будучыня.



**Вячаслаў Дзямідка, прадпрымальнік:**
– Пазітыўнага настрою. Каб усё станавілася толькі лепшым, каб маладое пакаленне больш актыўна сябе праяўляла, бо ад нас залежыць будучыня.



**Яўген і Вольга Бельчанковы, будаўнік і настаўніца:**
Хацелася б, каб было так, як апошнія гадоў дваццаць, і трохі яшчэ лепш. У гэтым годзе, здаецца, неяк трохі прэснавата людзям жылося, хацелася б, каб у наступным годзе было больш радасці. Каб больш было дабрабыту, бо фінансавы складнік таксама вельмі важны. Больш магчымасцяў каб у людзей было. Каб менш было сумных поглядаў на тое, што хочацца набыць, а каб было больш радасці ад таго, што ты гэта набыў. Каб гэта было не ў вашых марах, а стаяла ў вас дома. Ну, а самі мы чакаем папаўнення ў сям'і.



**Віктар Дудкевіч, рамеснік:**
– Што прынясе, тое і будзе. Хацелася б, вядома, каб год быў лепшы за мінулы. Каб Бог даў розум людзям, каб яны маглі адрозніваць добрае ад дрэннага. Каб нашы людзі перасталі быць сіротамі, а сталі беларусамі. І каб жылі згодна з Божымі запаведзямі. Каб людзі павярнуліся да Бога, і тады ў іх будзе ўсё добра.



**Людміла Барэйка, прадпрымальніца:**
– Нічога добрага чакаць не прыходзіцца: зарплаты ў людзей падаюць, узровень жыцця падае, адпаведна падае і абарот у гандлі. Мы, вядома, жадаем лепшага, але, на жаль, не бачым яго. Пакуль бачна толькі, што будзе яшчэ горш, бо эканоміка наша развалілася.



**Зміцер Курцэвіч, вадзіцель:**
– Нічога такога асаблівага не чакаю. Нават і не думаў пра гэта. У мяне звычайны алгарытм: пасяўная, касьба, уборка, восень... І ў краіне нашай, думаю, нічога не зменіцца. Праўда, для сябе чакаю, што ў гэтым годзе стану дзедам.



**Таццяна Адамовіч, прадпрымальніца:**
– Стабільнасці чакаю, каб здароўе ва ўсіх было, каб вайны не было. Хацелася б, каб лепш было, хаця мы і так нядрэнна жывём. Прэзідэнт у нас нармальны, парадак ва ўсім. У Глыбокім у нас таксама ўсё добра. Мне падабаецца наш горад, асабліва зараз, перад Новым годам. Работа ў нас ёсць, можа не ва ўсіх, таму хацелася б, каб у людзей была праца, а ўсё астатняе будзе.

***Апытвалі Зміцер Лупач і Леанід Юрык***

# Пабудаваў плот, зрабіў рамонт. Былога службоўца з Глыбокага падазраюць у атрыманні хабару

**Былога начальніка аддзела адукацыі Глыбоцкага райвыканкама падазраюць у атрыманні хабару, паведамляе Генеральная пракуратура.**

Крымінальная справа па ч. 1 арт. 430 КК (Атрыманне хабару) у стаўленні працаўніка райвыканкама ўзбудзіў пракурор Глыбоцкага раёна. Службоўцу падазраюць у падаванні пераваг прыватнаму будаўнічаму прадпрыемству пры заключэнні дамоў падраду. Былы начальнік аддзела адукацыі атрымаў маёмасную выгаду — прадпрыемства пабудавала плот на яго зямельным участку і выканала рамонт у кватэры яго сына.

Крымінальную справу накіравалі ў Следчы камітэт — для папярэдняга расследавання.

*Tut.by*

# У Пастаўскім раёне з'явіцца "казачная сцежка"

**Экскурсійна-анімацыйная сцежка па матывах казак Уладзіміра Дубоўкі з'явіцца ў спартова-турыстычным комплексе «Азёркі» Пастаўскага раёна, паведамляе БелТА.**

Інфраструктура комплексу прыкметна змянілася: з'явіліся вераўчанае мястэчка, скаладром, працуе карчма, ёсць вялікая сцэна. Да лета плануюць уладкаваць пляж і гульнявыя зоны, пляцоўку для намётавага мястэчка.

Анімацыйныя праграмы па хуткім часе папоўніць займальны маршрут «Казачная сцежка Дубоўкі». Уладкаванне сцежкі ўжо пачалі: будуюць драўляныя масткі, выразаюць скульптуры, галоўнай з якіх стане кампазіцыя Дзеда Бая з куфрам, набітым казкамі, і ўсяроддзі сяброў — лясных звяроў.

«Паэт-лірык, аўтар цудоўных казак Уладзімір Дубоўка родам з нашых краёў. Калісьці яго маці і дзед распавядалі яму гэтыя казкі. Таму нам захацелася, каб іх персанажы «прыжыліся» на малой радзіме. Пабудуем для Дзеда Бая (гэта збіральнік казак з «Цудоўнай знаходкі») хатку, як і для Бабы-ягі — яна і іншыя персанажы сустрэнуцца гасцям на будучай, прыкладна паўкіламятровай, сцежцы. Будуць па шляху і масток жаданняў, і чароўная студня, і шматлікае іншае. Сцэнар прапрацоўваем», — растлумачыла інструктар-метадыст па турызме аб'яднання «Фізічная культура, спорт і турызм Пастаўскага раёна» Наталля Карнілава.


Уладзімір Дубоўка

З ажыўшымі персанажамі казак Дубоўкі ўжо можна сустрэцца ў комплексе «Азёркі», прыехаўшы на навагоднюю забаўляльную праграму «Карагод казак Пастаўскага Паазер'я». Плануецца, што яны таксама будуць героямі масленічных гуляў, іншых забаўляльных праграм і з часам стануць своеасаблівай візітнай карткай раёна.

Будучая сцежка стане часткай маршруту «Край казак і легенд», якую прапануе турыстам аб'яднанне. Комплекс «Азёркі» таксама з'яўляецца вялікім праектам па развіцці спартовага і турыстычнага патэнцыялу Пастаўскага раёна.

*БелТА.*

# У інвестпраграму Віцебскай вобласці на 2017 год уключаны толькі значныя аб'екты і даўгабуды

**У інвестпраграму Віцебскай вобласці на 2017 год уключаны толькі самыя чаканыя і сацыяльна значныя аб'екты. Пра гэта паведаміў на пазачарговай сесіі абласнога савета дэпутатаў старшыня камітэта па архітэктуры і будаўніцтве аблвыканкама Ігар Ісачэнка, перадае карэспандэнт БелТА.**

Асноўныя задачы прадстаўленай інвестыцыйнай праграмы – забяспечыць увод сацыяльна значных пераходзячых з мінулага года аб'ектаў, аб'ектаў з максімальнай гатоўнасцю; скараціць аб'ёмы звышнарматыўнага незавершанага будаўніцтва. Галоўная ўвага нададзена павелічэнню аб'ёмаў жыллёвага будаўніцтва і забеспячэнню новых мікрараёнаў неабходнай інфраструктурай. *"На будаўніцтва, рэканструкцыю і праектаванне аб'ектаў камунальнай уласнасці праграмай прадугледжваецца звыш Br62,75 млн сродкаў абласнога бюджэту і рэспубліканскіх субвенцый. З іх больш Br37,41 млн – мэтавыя сродкі"*, – адзначыў Ігар Ісачэнка.

Па размеркаванні сродкаў самыя вялікія сумы прадугледжваюцца ў сферы агульнадзяржаўнай дзейнасці – звыш Br7,76 млн на будаўніцтва завода па вытворчасці металічнага ліста і белай бляхі ў Мёрах і спальнага корпусу дзіцячага рэабілітацыйнага комплексу "Жамчужына"; у сферы ЖКГ і жыллёвага будаўніцтва – больш за Br7,6 млн (у тым ліку Br1 млн па праграме "Чыстая вада", дзяржпраграме "Камфортнае жыллё і спрыяльнае асяроддзе на 2016-2020 гады").


Ігар Ісачэнка

Таксама вылучана Br3,15 млн на будаўніцтва дашкольных устаноў і сярэдніх школ у Віцебску, Оршы, **Глыбокім**; Br2,89 млн – на паліклініку ў віцебскім мікрараёне Поўдзень-7; Br2,55 млн – на завяршэнне будаўніцтва фізкультурна-аздараўленчых комплексаў ва Ушачах і Гарадку, праектаванне і будаўніцтва залы для батутыстаў у Віцебску.

З улікам усіх заявак, якія паступілі для ўключэння ў інвестпраграму на 2017 год, запатрабаванне ў сродках для фінансавання ўсіх аб'ектаў складае парадку Br800 млн. З іх толькі для завяршэння пераходзячых аб'ектаў камунальнай формы ўласнасці, фінансаваных раней па абласной інвестпраграме, трэба каля Br600 млн, дадаў Ігар Ісачэнка, растлумачыўшы тым самым важнасць і складанасць выбару прыярытэтных сфер і аб'ектаў з улікам дэфіцыту сродкаў.

*Кацярына Князева – БелТА*

# Прадстаўніцтва ЭКСАР у Беларусі разглядае магчымасць падтрымкі 21 праекта больш як на $670 млн

Прадстаўніцтва Расійскага агенцтва па страхаванні экспартных крэдытаў і інвестыцый (ЭКСАР) у Беларусі разглядае магчымасць падтрымкі 21 праекта больш як на $670 млн. Аб гэтым паведаміў кіраўнік прадстаўніцтва АТ "ЭКСАР" у Беларусі Віктар Даранкевіч на форуме "Група РЭЦ у Рэспубліцы Беларусь: вынікі і перспектывы пашырэння экспартных праектаў і інвестыцый", перадае карэспандэнт БелТА.

Асноўнымі прыярытэтамі кіраўнік прадстаўніцтва назваў энергетыку, інфраструктурныя праекты, сферу вытворчасці высокатэхналагічнай прадукцыі. "У ЭКСАР дзякуючы нашай рабоце ў Беларусі з'явілася больш за 40 новых кліентаў. Цяпер у нас знаходзіцца на разглядзе 21 праект на агульную суму больш як $670 млн", – адзначыў Віктар Даранкевіч.

Прадстаўніцтва ЭКСАР у Беларусі прадастаўляе кліентам шэраг паслуг, у тым ліку інфармаванне аб магчымасцях і прапановах ЭКСАР, кансультаванне і навучанне кліентаў, якія з'яўляюцца партнёрамі і пакупнікамі прадукцыі расійскіх вытворцаў, папярэдняе структураванне здзелак, іх падрыхтоўку і суправаджэнне. "На першапачатковым этапе дзейнасці мы бачылі дэвядзенне інфармацыі аб новых магчымасцях праграмы страхавання, якая дынамічна развіваецца ў Расіі. Нягледзячы на тое, што праграма створана для падтрымкі расійскага экспарту, для беларускіх прадпрыемстваў яна таксама змяшчае пэўныя перавагі", – растлумачыў Віктар Даранкевіч. У першую чаргу гэта магчымасць прыцягнення крэдытных рэсурсаў на працяглыя тэрміны па льготнай стаўцы.




*БелТА.*

# З 1 студзеня змяняюцца правілы наведвання пагранічнай зоны і пагранічнай паласы

**З 1 студзеня змяняюцца правілы наведвання пагранічнай зоны і пагранічнай паласы. Пра гэта ўжо паведамлялася на старонках СМІ. Тым не менш многія жыхары краіны яшчэ не ведаюць пра будучыя змены. Пракаменціраваў нававядзенні памочнік начальніка Полацкага пагранічнага атрада па рабоце са СМІ Дзяніс Глебка**:

– З новага года грамадзяне Рэспублікі Беларусь, а таксама замежныя грамадзяне і асобы без грамадзянства, якія пастаянна пражываюць у краіне і дасягнулі 14-гадовага ўзросту, будуць вызвалены ад аплаты дзяржаўнай пошліны за ўезд (уваход) і перамяшчэнне ў пагранічнай зоне. Пры наведванні рэжымнай тэрыторыі ім дастаткова мець пры сабе пашпарт, пасведчанне бежанца або від на жыхарства.

Ёсць змены і ў частцы знаходжання ў пагранічнай паласе. Тэрмін дзеяння пропуска ў пагранічную паласу для беларускіх грамадзян павялічваецца з аднаго да двух гадоў. Памер дзяржпошліны складзе 0,4 базавай велічыні. Плаціць яе не прыйдзецца жыхарам пагранічнай зоны, работнікам арганізацый, якія вядуць гаспадарчую дзейнасць у пагранічнай паласе, і шэрагу іншых катэгорый грамадзян.




Таксама з 1 студзеня змяніцца парадак наведвання пагранічнай зоны для замежных грамадзян. Тэрмін дзеяння пропуска ў яе павялічыцца з аднаго да двух гадоў, а стаўка дзяржаўнай пошліны за выдачу такога дакумента складзе 0,4 базавай велічыні.

Межы пагранічнай зоны і пагранічнай паласы ўсталёўваюцца рашэннем Віцебскага абласнога выканаўчага камітэта. На мясцовасці яны пазначаны аншлагамі.

**Падрабязную інфармацыю можна атрымаць на афіцыйным інтэрнэт-партале Дзяржаўнага пагранічнага камітэта** *http://gpk.gov.by ці на сайце Полацкага пагранічнага атрада http:// tops.gpk.gov.by/polock.*

Са студзеня заяву на выдачу пропуска ў пагранічную зону ці пагранічную паласу можна будзе падаць у Полацкім пагранатрадзе (Полацкі р-н, в. Фарынава), у аддзеле пагранічнай службы "Опса", на пагранічных заставах "Друя", "Плюсы", пастах "Урбаны", "Відзы", "Карасіна", "Пакульня", "Відзы", "Казяны". Гатовы пропуск будуць выдаваць у Полацкім пагранатрадзе (на ўчастак усіх падраздзяленняў пагранатрада), у АПС "Опса" (на ўчастку застаў "Друя", "Плюсы", пастоў "Урбаны", "Відзы", "Карасіна", "Пакульня", "Відзы", "Казяны"), на заставе "Друя" (на ўчастак гэтай заставы).

*braslav-star*



**Фадзей Шымуковіч,** *педагог, пенсіянер, г. Дзісна*

# Цэлыя народы і краіны гібелі ў духоўнай цемнаце і беднасці

**"Усеагульнае развіццё светача навукі ўжо расчыніла перад усімі тую відавочную праўду, што масы чалавецтва не народжаны з сёдламі на спінах, каб нешматлікія прывілеяваныя, прышпорваючы, кіравалі імі з дапамогай закона і літасці Божай" .**

*Томас Джэферсан*

Больш за 70 год у СССР ідэолагі, і не толькі яны, стваралі новую чалавечую супольнасць – савецкі народ. Камуністычны эксперымент, пад знакам якога прайшло ўсё 20 стагоддзе, прынёс вынік, здзіўляючы як маштабамі, так і сваёй адназначнасцю. Адчуджэнне чалавека ад уласнасці, ад права не толькі самастойна будаваць сваё жыццё, але і несці адказнасць за свае дзеянні, раўназначна па сваёй разбуральнасці вайне, прыродным катаклізмам – мільёны загінуўшых людзей, разруха, маральная беднасць.

Там, дзе гэта адбывалася, рух цывілізацыі запавольваўся. Цэлыя народы і краіны гібелі ў духоўнай цемнаце і беднасці.

Страх перад уладамі, які перадаваўся з пакалення ў пакаленне, няздольнасць знайсці ўвасабленне свайму розуму і талентам, непадзельнае падпарадкаванне "старэйшым". Для тых, хто кіруе, гэта вельмі зручны тып чалавека. Было б зусім зручна, калі б не даводзілася выплачваць зарплату. Хоць не рэдкія выпадкі, калі памеры гэтай зарплаты былі самыя мізэрныя, асабліва ў сельскай гаспадарцы.

Савецкі чалавек, дакладней яго ідэал, – гэта бескарысная істота, якая працуе на народ, а не на кішэню. Істота патрыятычная – *"жила бы страна родная, и нету других забот"*. Чалавек, які мог прыйсці на дапамогу другому і не патрабаваць за гэта ніякай узнагароды. Канечне, гэта ідэал, які вельмі адрозніваецца ад рэальнасці, але былі асобы, якія стараліся жыць блізка да гэтых нормаў. Савецкі чалавек не пакутаваў комплексам рэлігійнай і нацыянальнай варожасці, гэта была канструкцыя вельмі нават і не дрэнная, вельмі зручная для кіраўнікоў. Мінус быў толькі адзін: нічога не думаць, за нас думаюць правадыры. Ён быў камфарміст па перакананні, заўсёды рабіў тое, што ад яго патрабавалася, ніякай ініцыятывы.

Мы тады ўсе сталіся з пагардай да людзей, якія імкнуліся да нажывы, хоць і чэсным шляхам, паўафіцыйна прыніжаных паспяховых прадаўцоў, афіцыянтаў і ім падобных. Гэта былі не савецкія людзі, хабарнікі, рвачы.

Маё юнацтва і дзяцінства прахадзілі ў гэтых абставінах, і ў многім фарміравалі характар і асабістыя рысы. 15-гадовым юнаком у далёкім 1950 годзе я і сам займаўся фарміраваннем маральнага вобліку савецкага юнака, будучы старшынёй вучнёўскага камітэта. Была тады ў школе такая форма самакіравання, між іншым, дастаткова эфектыўная, калі яе не забюракраціць. У арміі з 1956 года быў пазаштатным ваенкорам, пісаў артыкулы ў акружныя газеты і часопіс "Советский воин". Узначальваў ротную камсамольскую арганізацыю.

У той час моладзь была падвержана патрыятызму. Паднімалі цаліну, шмат маладзёжных будоўляў. У пачатку, а дакладней, у канцы лютага 1957 года я вырашыў, што маё месца ў кампартыі. Стаў рыхтавацца да гэтага сур'ёзнага кроку ў маім жыцці. Патрэбны былі тры рэкамендацыі. Адну рэкамендацыю дала камсамольская арганізацыя. Другую – памочнік начальніка палітаддзела брыгады па камсамоле капітан Сяргееў. За трэцяй давялося звярнуцца да галоўнага інжынера брыгады гвардыі палкоўніка Сташына, які ў партыю ўступаў у снежні 1941 года пад Масквой, маладым лейтэнантам, камандзірам знакамітай "Кацюшы". Пасля трэцяй гутаркі рэкамендацыю я атрымаў, але даў чэснае слова, што ніколі партбілет не ператвару ў "хлебную картку", а чэсна і добрасумленна буду працаваць там, куды пашле партыя. І хутка такая магчымасць мне выпала.

**Атрымаў накіраванне ў райгазету з акладам 560 рублёў... Старшыня калгаса перайграў прызначэнне. Я быў патрэбен калгасу як брыгадзір, з акладам 75 рублёў... Давялося падпарадкавацца!**

У 1958 годзе дэмабілізаваўся, а пры пастаноўцы на партыйны ўлік у Дзісненскім РК КПБ ад сакратара Анісімава Івана Ерамеевіча атрымаў накіраванне ў райгазету на пасаду літсупрацоўніка з акладам 560 рублёў. Нядоўга музыка іграла. Старшыня калгаса перайграў прызначэнне. Я быў патрэбен калгасу на пасадзе брыгадзіра з акладам 75 рублёў і 36 працадней. Давялося падпарадкавацца і працаваць там, дзе я быў патрэбны.

За сваё працоўнае жыццё давялося працаваць старшынёй сельскага савета, парторгам і намеснікам старшыні калгаса, настаўнікам, дырэктарам СШ, дырэктарам школы-інтэрната, завучам, ваенруком. Але ніколі не перапынялася грамадская праца: селькорам, прапагандыстам, агітатарам, загадчыкам парткабінета на грамадскіх пачатках. Каб выконваць гэту грамадскую працу кваліфікавана, давялося двойчы заканчваць універсітэт марксізму-ленінізму. Праца адзначана шматлікімі граматамі ад раённага ўзроўню, да Граматы Вярхоўнага Савета БССР. Натуральна, даводзілася дзяліцца досведам працы ў друку, выступаць на раённых і абласных семінарах. Я павінен быў запісаць сваю прамову на паперы, здаць у РК КПБ, дзе ўсе карэктавалі, не пытаючыся. Толькі з такім адкарэктаваным "сваім" выступленнем я мог дзяліцца "сваімі" метадамі прапагандысцкай працы.

Што тычыцца артыкулаў у друк, то ім пад выглядам карэкцыі праводзілі "кастрацыю", г.зн. выразалі ўсё тое, што было няўгодна ўладам. Што тычыцца сённяшняга дня, то выступаць мне не прапануюць, ведаючы мой характар і адносіны да абману, а артыкулы падвяргаюць жорсткай кастрацыі, або наогул яны месяцамі ляжаць пад сукном у рэакцыі[1].

Удзяржавы нацыянальная ідэалогія павінна быць. Але яна ў першую чаргу павінна адпавядаць ідэі зберажэння свайго народа, яго культуры, мовы, яго гісторыі. Выхоўваць сапраўдны патрыятызм, працалюбства, гонар за сваю краіну.

Патрыятызм не заўсёды добра. Калі ён звязаны з адзінствам, з супольнасцю, тады мае права на існаванне. Але калі патрыятызм ператвараюць у гардыню сабой, сваім народам, то з нацыянальнага пачуцця ён перараджаецца ў нацыяналізм. А нацыяналізм асабліва страшны, калі становіцца ідэалогіяй. Патрыятызм павінен уключаць у сябе момант пакаяння, момант пакоры, але не пагарды.

Ці пабудавалі мы новую грамадскасць "савецкі народ" няхай адкажуць паважаныя чытачы.



**На свяце 600-годдзя Глыбокага.** *Фота Ул. Скрабатуна.*

1. Маюцца на ўвазе дзяржаўныя СМІ.

## Беларусь падпісала пагадненне аб фінансаванні праграм трансгранічнага супрацоўніцтва ЕС

Міністр замежных спраў Беларусі Уладзімір Макей ад імя ўрада Беларусі падпісаў пагадненне аб фінансаванні праграм трансгранічнага супрацоўніцтва ЕС "Латвія-Літва-Беларусь" і "Польшча-Беларусь-Украіна" па лініі Еўрапейскага інструменту суседства на 2014-2020 гады. Аб гэтым БЕЛТА паведамілі ў прэс-службе МЗС. Падпісанне пагаднення стварае прававую аснову для ўдзелу Беларусі ў рэалізацыі названых праграм, якія накіраваны на падтрымку супрацоўніцтва паміж краінамі-ўдзельніцамі і іх сумежнымі тэрыторыямі ў такіх галінах, як кіраванне дзяржаўнай граніцай, барацьба з трансгранічнай злачыннасцю, сумеснае рэагаванне на надзвычайныя сітуацыі, абарона навакольнага асяроддзя, падтрымка прадпрымальніцтва, развіццё турызму, аховы здароўя і сацыяльных паслуг, ахова культурна-гістарычнай спадчыны, стымуляванне міжкультурных сувязей і кантактаў паміж людзьмі.



Сукупны бюджэт абедзвюх праграм перавышае 280 млн еўра, якія будуць выдзяляцца на праектную дзейнасць у краінах-удзельніцах на конкурснай аснове. Пры гэтым больш за 20 млн еўра з названых сродкаў зарэзервавана на пазаконкурсную рэалізацыю ў Беларусі маштабных праектаў па развіцці прыгранічнай інфраструктуры, уключаючы мадэрнізацыю пагранічных пунктаў пропуску, удасканаленне тэхнічных сістэм аховы граніцы і рэканструкцыю пад'язных шляхоў. Пагадненні аб фінансаванні поўнасцю ўступяць у сілу пасля іх ратыфікацыі Рэспублікай Беларусь у 2017 годзе.

*БелТА.*

## Новыя тарыфы ЖКП: у Віцебскай вобласці вада падаражэла амаль у два разы

**З 1 студзеня Віцебскі аблвыканкам уводзіць новыя Фіксаваныя тарыфы на жыллёва-камунальныя паслугі, якія прадстаўляюцца насельніцтву, якія субсідуюцца дзяржавай.**

Кошт кубаметра вады вырас на 90% і зараз складае 0,5301 рубля замест 0,2790 рубля, якіс ён стаў пасля сакавіцкага зніжэння тарыфаў. З 0,1893 да 0,354 рубля за кубаметр вырас тарыф на каналізацыю, што таксама складае 90%.

Тэхнічнае абслугоўванне дома зараз абыдзецца ў 10 капеек з квадратнага метра — у сутнасці гэта акругленне мінулага кошту ў 9,949 капейкі. А вось аплата за ліфт ускокнула на 83% — з 0,6911 да 1,19 рубля.

Нагадаем, што ў сакавіку 2016 тарыфы былі некалькі зніжаныя пасля рэзкага іх павелічэння ў студзені. Тады аплата за кубаметр вады была ўсталяваная ў памеры 0,47659 рубля, а за кубаметр водаадвядзення — у 0,41488 рубля. Гэта значыць тарыф на водазабеспячэнне ўжо не толькі дасягнуў студзеньскага, раскрытыкаванага Аляксандрам Лукашэнка, але і перавысіў яго.

*ННВ.*

■ В.Е.Катовіч,
*ст. дзяржаўны інспектар Глыбоцкай міжраённай інспекцыі.*

# Шмат якія паляўнічыя ўсё ж грэбуюць элементарнымі правіламі бяспекі

**Валоданне асабістай зброяй накладвае на паляўнічага асаблівую адказнасць. Зброя з'яўляецца крыніцай падвышанай небяспекі. Бяспечнасць пры абыходжанні з ёй часта прыводзіць да непапраўных наступстваў.**

Са сканчэннем 2016 года сканчаецца і загоннае паляванне на лася, казулю, аленя. Але не варта забываць, што працягваецца паляванне на кабана і пушныя віды дзічыны. Праводзячы аналіз працы інспекцыі за асенне-зімовы перыяд 2016 года можна зрабіць выснову, што шматлікія паляўнічыя ўсё ж грэбуюць элементарнымі правіламі бяспекі, не разраджаюць зброю пры праверцы дакументаў, перавозяць расчахлёную зброю па дарогах агульнага карыстання, выяўлена 10 фактаў указаных парушэнняў, усе паляўнічыя прыцягнутыя да адміністрацыйнай адказнасці.

Акрамя таго мабюцца выпадкі выкарыстання паляўнічымі забароненых прылад палявання – куль і карцечы – пры ажыццяўленні палявання на пушныя віды дзічыны, выяўлена 8 фактаў. Знаходжанне ў паляўнічых угоддзях з прыладамі палявання – капканамі, не маючы паляўнічых пуцёвак, дазволаў на здабычу паляўнічай жывёлы і пуцёвак да іх, выяўлена 5 фактаў. Усе паляўнічыя прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе штрафу ў памеры 25 базавых велічынь, пазбаўлены адмысловага права на 6 месяцаў з канфіскацыяй забароненых прылад палявання.

Глыбоцкая міжраённая інспекцыя лічыць сваім абавязкам яшчэ раз нагадаць аматарам палявання, што правілы тэхнікі бяспекі пры правядзенні палявання напісаныя не для таго, каб абмежаваць паляўнічых у якіх-небудзь дзеяннях, а для таго, каб звесці на мінімум рызыку атрымання калецтваў ці, яшчэ горш, смерці. Прынцыпы бяспечных паводзін на паляванні адлюстраваны ў частцы 12 Правілаў вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання.



**Нагадваем асноўныя з правілаў.**

Адпраўляючыся на паляванне, варта старанна агледзець і праверыць зброю, прыбраць са ствала (стваловў) лішняе масла, ухіліць магчымыя дэфекты, праверыць надзейнасць дзеяння засцерагальніка. Праверыць усе патроны, пры неабходнасці правесці іх каліброўку. Не рэкамендуецца ўжываць патроны з мінуўшым тэрмінам прыдатнасці і патроны, на металічнай частцы якіх ці на паверхні капсуля, з'явіліся прыкметы ржы.

**Асноўныя правілы бяспекі на паляванні.**

**Забараняецца:**

- выкарыстоўваць паляўнічую зброю, якая мае тэхнічныя няспраўнасці;
- ужываць патроны, не адпаведныя дадзенай паляўнічай зброі;
- ажыццяўляць пасадку ў транспартны сродак і высадку з яго з зараджанай паляўнічай зброяй;
- даставаць сабраную паляўнічую зброю за ствол (ствалы) з лодкі, вазоў, санак ці іншага транспартнага сродку;
- праводзіць стральбу на шум, шоргат, па невыразна бачнай мэце, у смузе, у моцны снегапад, у змярканні, супраць сонца і пры іншых умовах дрэннай бачнасці, а таксама па ўзлятаючай птушцы ніжэй за 2,5 метра ва ўмовах абмежаванай бачнасці;
- праводзіць стральбу і знаходзіцца з зараджанай паляўнічай зброяй на адлегласці меней за 200 метраў ад крайняга будынка населенага пункта;
- праводзіць стральбу ў кірунку людзей, населеных пунктаў, сельскагаспадарчых жывёл, транспартных сродкаў з агнястрэльнай гладкаствольнай паляўнічай зброі на адлегласці меней за 500 метраў да іх і з агнястрэльнай паляўнічай зброі з наразным ствалом - меней за 2 кіламетры;
- накіроўваць паляўнічую зброю, у тым ліку незараджаную, на чалавека, хатніх жывёл ці месцы іх знаходжання;
- без неабходнасці праводзіць стрэл, узводзіць курок знешнекурковай зброі ці здымаць з засцерагальніка ўнутрыкурковую зброю;
- праводзіць стральбу з лодкі праз весляроў ці іншых паляўнічых, якія знаходзяцца ў лодцы;
- дабіваць прыкладам зброі параненую паляўнічую жывёлу.

**Паляўнічая зброя павінна быць разраджана пры:**

- пераадоленні на паляванні розных перашкод (канаў, загарадзяў, ветраломаў і іншых);
- пераходзе па кладках праз рэчкі, ручаіны;
- пераездзе з аднаго загону ў іншы;
- перад пасадкай у транспартны сродак;
- падыходзе да месца прывалу і збору;
- сустрэчы са службовымі асобамі органаў паляўнічага кантролю, унутраных спраў, а таксама службовымі асобамі карыстальніка паляўнічых угоддзяў, якія здзяйсняюць ахову паляўнічых жывёл у паляўнічых угоддзях.

**Паляўнічы можа праводзіць стральбу, толькі папярэдне пераканаўшыся ў тым, што ў кірунку стрэлу няма людзей ці хатніх сельскагаспадарчых жывёл!**

Паважаныя паляўнічыя, выконвайце правілы і ўдалага ўсім палявання.

Аб усіх парушэннях прыродаахоўнага заканадаўства вы можаце паведаміць на тэлефон даверу 8(02156)5-59-70 ці на мабільныя тэлефоны: МТС 8972302, МТС 890-55-28, МТС 249-45-49, МТС 645-66-78.



# Віншаванкі

*Анатоля Анатольевіча Новікава*

*ст. Крулеўшчына*

**Віншуем з юбілеем!**

**Пусть жизнь подарит тебе самое лучшее: здоровье, счастье, богатство, удачу и семейное благополучие.**

Пусть этот день не
шумный праздник,
Не красный день
в календаре,
Но он счастливый
и прекрасный –
Ты появился
на земле!
Пусть солнце тебя
в этой жизни согреет,
Господь для тебя
пусть тепла не жалеет,
Пусть ангел-хранитель
тебя укрывает
От всякой обиды
зелёной,
А доброе сердце твоё
не узнает
Из тысячи бед
ни одной.



*Любящие родные, д. Шуневичи.*

# Усе аўтамабілі, што ўвозяцца пасля 1 студзеня 2017 г., павінны мець убудаваную сістэму выкліку экстраных службаў

**Патрабаванне аб абавязковым аснашчэнні транспартных сродкаў у краінах Еўразійскага эканамічнага саюза (ЕАЭС) прыладамі выкліку экстраных аператыўных службаў уступае ў сілу з 1 студзеня 2017 года.**

Гэта прадугледжана тэхнічным рэгламентам ЕАЭС «Пра бяспеку колавых транспартных сродкаў», нагадвае БелТА.

Патрабаванне не распаўсюджваецца на аўтамабілі, якія знаходзіліся ў эксплуатацыі да ўступлення ў сілу новай нормы.

У выпадку аварыі ўсталяваная на машыне прылада ў аўтаматычным рэжыме або пры націсканні трывожнай кнопкі інфармуе адпаведныя службы. Атрымаўшы сігнал, яны максімальна хутка накіроўваюць свае брыгады, у тым ліку медыцынскую, на месца здарэння.

«Аператыўнае аказанне медпамогі і захаванне жыцця, з'яўляецца галоўнай мэтай стварэння нацыянальных сістэм выкліку экстраных службаў у саюзных краінах», — падкрэслілі ў ЕЭК.

Усе асноўныя аўтамабільныя брэнды, якія пастаўляюць сваю прадукцыю ў Еўразійскі эканамічны саюз, завяршылі альбо завяршаюць аснашчэнне аўтамабіляў трывожнай сістэмай.



У дачыненні да машын, што ўвозяцца фізічнымі асобамі з трэціх краін, будуць дзейнічаць тыя ж патрабаванні. Грамадзянам, якія жадаюць у прыватным парадку завезці ў ЕАЭС пасля 1 студзеня 2017 года транспарт (як новы, так і былы ў выкарыстанні), неабходна памятаць, што, напрыклад, легкавы аўтамабіль павінен мець убудаваную працаздольную сістэму выкліку экстраных аператыўных службаў.

Выказваецца меркаванне, што падобныя прылады могуць быць выкарыстаны, каб сачыць за перамяшчэннем аўтамабіляў.

*БелТА.*

# Пераўтварэнне СВК у гаспадарчыя таварыствы або КУП завершаць да 31 мая 2017 года

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ, якім прадугледжваецца ўнясенне змяненняў ва ўказ ад 17 ліпеня 2014 года нумар 349 "Аб рэарганізацыі калгасаў (сельскагаспадарчых вытворчых кааператываў)". Аб гэтым БелТА паведамілі ў прэс-службе кіраўніка дзяржавы. У адпаведнасці з дакументам работы па пераўтварэнні сельскагаспадарчых вытворчых кааператываў у гаспадарчыя таварыствы або камунальныя ўнітарныя прадпрыемствы павінны быць завершаны да 31 мая 2017 года.

*БелТА.*

# Курыць у аб'ектах грамадскага харчавання ў Беларусі можна будзе толькі ў спецыяльна адведзеных месцах

**У Беларусі плануецца забараніць курэнне ў аб'ектах грамадскага харчавання, за выключэннем спецыяльна адведзеных для гэтага месцаў, паведаміла БелТА намеснік міністра антыманапольнага рэгулявання і гандлю Ірына Наркевіч.**

«Праектам дэкрэта «Аб дзяржаўным рэгуляванні вытворчасці, абароту і спажывання тытунёвай сыравіны і тытунёвых вырабаў, абароту і выкарыстання электронных сістэм курэння, вадкасцяў для электронных сістэм курэння «ўстаноўлена, што ў аб'ектах грамадскага харчавання курэнне забаронена, за выключэннем спецыяльна створаных для гэтай мэты месцаў», - адзначыла Ірына Наркевіч.

# У Беларусі павышаецца пенсійны ўзрост з 1 студзеня

**У Беларусі павышаецца пенсійны ўзрост з 1 студзеня 2017 года, паведамляе БЕЛТА. Прэзідэнт Беларусі 11 красавіка 2016 года падпісаў указ нумар 137 "Аб удасканаленні пенсійнага забеспячэння", які ўступіў у сілу з 1 студзеня 2017 года.**

Дакументам прадугледжана паэтапнае штогадовае павышэнне на 6 месяцаў пенсійнага ўзросту да дасягнення мужчынамі 63 гадоў, жанчынамі - 58 гадоў. Аналагічна (на 3 гады за 6 гадоў) павялічаны ўзрост, які дае права на льготныя працоўныя пенсіі і пенсіі за выслугу гадоў. Суразмерна агульнаграмадзянскаму будзе паступова павышацца гранічны ўзрост знаходжання на ваеннай службе ваеннаслужачых.

Як растлумачылі ў Міністэрстве працы і сацыяльнай абароны, з 1 студзеня 2017 года да 2022 года кожны год устанаўліваецца новы пенсійны ўзрост (для звароту за пенсіяй) шляхам яго павышэння адносна папярэдняга года на 6 месяцаў: у 2017 годзе для мужчын - 60 гадоў 6 месяцаў, для жанчын - 55 гадоў 6 месяцаў; у 2018 годзе для мужчын - 61 год, для жанчын - 56 гадоў; у 2019 годзе для мужчын - 61 год 6 месяцаў, для жанчын - 56 гадоў 6 месяцаў; у 2020 годзе для мужчын - 62 гады, для жанчын - 57 гадоў; у 2021 годзе для мужчын - 62 гады 6 месяцаў, для жанчын - 57 гадоў 6 месяцаў; з 2022 года для мужчын - 63 гады, для жанчын - 58 гадоў. Такім чынам, новы пенсійны ўзрост у 2017 годзе для мужчын складае 60 гадоў 6 месяцаў (у другім паўгоддзі пенсія можа быць назначана народжаным з 1 студзеня па 30 чэрвеня 1957 года), для жанчын - 55 гадоў 6 месяцаў (у другім паўгоддзі пенсія можа быць назначана народжаным з 1 студзеня па 30 чэрвеня 1962 года); у 2018 годзе для мужчын - 61 год (у другім паўгоддзі пенсія можа быць назначана народжаным з 1 ліпеня па 31 снежня 1957 года), для жанчын - 56 гадоў (у другім паўгоддзі пенсія можа быць назначана народжаным з 1 ліпеня па 31 снежня 1962 года); у 2019 годзе для мужчын - 61 год 6 месяцаў (у другім паўгоддзі пенсія можа быць назначана народжаным з 1 студзеня па 30 чэрвеня 1958 года), для жанчын - 56 гадоў 6 месяцаў (у другім паўгоддзі пенсія можа быць назначана народжаным з 1 студзеня па 30 чэрвеня 1963 года); у 2020 годзе для мужчын - 62 гады (у другім паўгоддзі пенсія можа быць назначана народжаным з 1 ліпеня па 31 снежня 1958 года), для жанчын - 57 гадоў (у другім паўгоддзі пенсія можа быць назначана народжаным з 1 ліпеня па 31 снежня 1963 года); у 2021 годзе для мужчын - 62 гады 6 месяцаў (у другім паўгоддзі пенсія можа быць назначана народжаным з 1 студзеня па 30 чэрвеня 1959 года), для жанчын - 57 гадоў 6 месяцаў (у другім паўгоддзі пенсія можа быць назначана народжаным з 1 студзеня па 30 чэрвеня 1964 года); з 2022 года пенсіі будуць назначаць мужчынам у 63 гады, жанчынам - у 58 гадоў. Паводле ацэнкі, да 2022 года пенсія па ўзросце будзе назначацца прыкладна 55 тыс. чалавек штогод. Па меры павышэння пенсійнага ўзросту адпаведна павялічваецца і перадпенсійны ўзрост.



У Беларусі ўстаноўлены гарантыі занятасці для людзей перадпенсійнага ўзросту. У Мінпрацы і сацабароны падкрэслілі, што ахоўныя нормы ў працоўных адносінах для работнікаў перадпенсійнага ўзросту (заключэнне/прадаўжэнне кантрактаў да дасягнення "новага" пенсійнага ўзросту) захоўваюцца.

*БелТА*

# Зацверджана рашэнне спецфонду Прэзідэнта па падтрымцы таленавітай моладзі

**Кіраўнік дзяржавы Аляксандр Лукашэнка падпісаў распараджэнне, якім зацверджана рашэнне савета спецыяльнага фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы таленавітай моладзі і выдзелена 317 809 рублёў для мэтавага фінансавання стыпендый, прэмій, грантаў і матэрыяльнай дапамогі таленавітай моладзі.**

Згодна з рашэннем 21 прадстаўнік таленавітай моладзі стаў стыпендыятам фонду, а яго дыпламантамі — 19 чалавек. Назначаны 27 заахвочвальных прэмій. Гранд-прэмій фонду з прысуджэннем звання лаўрэата і ўручэннем пасведчання і нагруднага знака лаўрэата ўдастоены пяць чалавек. Матэрыяльную дапамогу атрымаў 41 прадстаўнік моладзі.

Акрамя таго, выдзелены два гранты — Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі і Мінскаму дзяржаўнаму каледжу мастацтваў на набыццё музычных інструментаў і абсталявання.

Прыняцце распараджэння Прэзідэнта Беларусі з'яўляецца сведчаннем увагі дзяржавы да стварэння ўмоў для пошуку, станаўлення, развіцця і навучання таленавітай моладзі ў мэтах папулярызацыі і пазіцыянавання беларускай культуры як складніка сусветнай культурнай прасторы.

*БелТА.*

# Звесткі аб наяўнасці жылля ў заяўніка на субсідыю будуць прадастаўляцца бясплатна

**Звесткі аб наяўнасці жылых памяшканняў, што належаць (належалі) заяўніку і членам яго сям'і, якія пражываюць сумесна з ім, за шэсць каляндарных месяцаў, што папярэднічаюць месяцу звароту за прадастаўленнем безнаяўнай жыллёвай субсідыі па заяўным прынцыпе, будуць прадастаўляцца бясплатна, паведамілі карэспандэнту БелТА ў Міністэрстве жыллёва-камунальнай гаспадаркі.**

Там растлумачылі, што адпаведную пастанову падпісаў прэм'ер-міністр Беларусі Андрэй Кабякоў.

У міністэрстве нагадалі, што для мэт прыняцця рашэння аб прадастаўленні грамадзяніну безнаяўнай жыллёвай субсідыі па заяўным прынцыпе службай субсідзіравання запытваюцца ў рэспубліканскай арганізацыі па дзяржаўнай рэгістрацыі нерухомай маёмасці, правоў на яе і здзелак з ёй звесткі аб жылых памяшканнях, што належаць (належалі) заяўніку, а таксама членам яго сям'і, якія пражываюць сумесна з ім, за шэсць каляндарных месяцаў, што папярэднічаюць месяцу звароту за прадастаўленнем безнаяўнай жыллёвай субсідыі.

"Паколькі ўвядзенне механізма прадастаўлення безнаяўных жыллёвых субсідый накіравана на падтрымку сацыяльна слабаабароненых слаёў насельніцтва, то было вырашана, што і выдача звестак для заяўнікаў будзе прадастаўляцца на бязвыплатнай аснове", - растлумачылі ў Міністэрстве жыллёва-камунальнай гаспадаркі.

*БелТА.*

# У Беларусі знайшлі новае радовішча нафты

**У снежні на нафтавай карце Беларусі з'явілася новае радовішча.**

Яно адкрыта ў межах прамежкавага блока рэгіянальнага Рэчыцка-Вішанскага разлома Прыпяцкага прагіну. І атрымала назву Вугольскае. Падчас выведкавага свідравання Вугольскай падсолевай структуры пошукавая свідравіна № 1-Вугольская з глыбінёй 5 218 м пры засваенні сямілукскага гарызонту дала прыток нафты з газам дэбітам каля 39,5 т у суткі. Нафта Вугольскага радовішча адносіцца да катэгорыі цяжкадаступных запасаў. Яна знаходзіцца на вялікай глыбіні і ў нізкапраніцаемым калектары. Дадатным фактарам для распрацоўкі стане анамальна высокі пластавы ціск.

Геалагічныя запасы новага радовішча ацэньваюцца ў 1 млн 695 тыс. т нафты. Больш дакладную адзнаку можна будзе зрабіць пасля свідравання ў 2017 г. выведкавай свідравіны № 2 Вугольская.

*belorusneft.by*

# Графік пераносу рабочых дзён у 2017 годзе зацверджаны ў Беларусі

**Савет Міністраў пастановай нумар 912 ад 9 лістапада 2016 года зацвердзіў графік пераносу рабочых дзён у 2017 годзе. Адпаведная інфармацыя размешчана на афіцыйным сайце ўрада, паведамляе БелТА.**

Згодна з дакументам, рабочыя дні ў 2017 годзе пераносяцца з панядзелка 2 студзеня на суботу 21 студзеня; з панядзелка 24 красавіка на суботу 29 красавіка; з панядзелка 8 мая на суботу 6 мая; з панядзелка 6 лістапада на суботу 4 лістапада.

Арганізацыям прадастаўлена права з улікам спецыфікі вытворчасці (работы) ажыццяўляць перанос рабочых дзён у іншым парадку ў адпаведнасці з заканадаўствам. Пастанова прынята згодна з ч.6 арт.136 Працоўнага кодэкса Рэспублікі Беларусь.

*БелТА.*

# У Саўміне распавялі, які курс даляра чакаць беларусам у бліжэйшыя тры гады

**Савет міністраў пастановай ад 28 снежня 2016 г. № 1094 зацвердзіў сярэднетэрміновую фінансавую праграму рэспубліканскага бюджэту на 2017-2019 гады, паведамілі ў прэс-службе беларускага ўрада.**

Згодна з дакументам, тэмп росту ВУП у 2017 годзе устаноўлены ў памеры 100,2%, у 2018 годзе - 101,4%, у 2019 годзе - 102,2%.

Памер стаўкі рэфінансавання на канец 2017 года запланаваны на ўзроўні 16%, на канец 2018 года - 13%, на канец 2019 года - 10%.

Курс даляра ЗША чакаецца ў памеры 2,2114 рубля па выніках 2017 года, 2,2267 рубля — па выніках 2018 года, 2,2452 рубля — па выніках 2019 года.

Цана на нафту маркі Urals прагназуецца на ўзроўні 35 даляраў за барэль у 2017 годзе, 42 даляры - у 2018 годзе, 50 даляраў — у 2019 годзе.

*nn.by*

# У Полацкім раёне маршрутка з 16 пасажырамі ўрэзалася ў прыпаркаваны KIA і перакулілася

**Па факце ДТЗ у Полацкім раёне, дзе перакулілася маршрутка з 16 пасажырамі, праводзіцца праверка, кіроўца прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці, паведаміў БелТА прадстаўнік ДАІ УУС Віцебскага аблвыканкама Аляксандр Казючыц.**

ДТЗ адбылося ўвечары 2 студзеня ў раёне вёскі Чарнешчына.

Мікрааўтобус з 16 пасажырамі накіроўваўся з Навапалацка ў Полацк па маршруце № 10. На закругленні дарогі яго занесла, і машына ўрэзалася ў прыпаркаваны ля абочыны KIA Sportage, пасля чаго перакулілася на правы бок.

Кіроўца KIA ў гэты момант шукаў дапамогу, каб адбуксаваць свой няспраўны аўтамабіль.

Па папярэдніх дадзеных, у аварыі ніхто не пацярпеў.

*БелТА.*

# "Наша ніва" і краязнаўства

## (Да 110-годдзя з дня выхаду)



*Кліменцій Кожан, краязнаўца,* Германавічы

Чытаючы старыя газеты, мы многае можам даведацца з гісторыі і культуры роднага краю. Да такіх газет найперш трэба аднесці грамадска-палітычную, навукова-папулярную і літаратурна-мастацкую газету "Наша ніва", якая штотыднёва выдавалася на беларускай мове ў Вільні з 10(23) лістапада 1906 года да 7(20) жніўня 1915 года кірыліцай і лацінкай – да 18(31) кастрычніка 1912 года. "Наша ніва" была заснавана кіруючай групай леванародніцкай нацыянальнай партыі Беларуская сацыялістычная грамада (БСГ) – братамі І. і А. Луцкевічамі, В. Іваноўскім, А. Уласавым, А. Пашкевіч (Цёткай) і інш. Рэдактары-выдаўцы С. Вольскі, А.Уласаў (з 8.12.1906г), Я. Купала (з 7.03.1914г – рэдактар, з 16.05.1914г – рэдактар-выдавец). Рэдактарамі аддзелаў у розны час былі Янка Купала, Якуб Колас, З. Бядуля, Х. Імшэнік (загадчык канторы і сакратар рэдакцыі да 1909 года), В. Ластоўскі (сакратар рэдакцыі з 1909 года), Ядвігін Ш., С. Палуян (С. Ясяновіч), А. Бульба (В. Чыж) і іншыя. Газета друкавала вершы, прозу, навукова-папулярныя артыкулы, гуртавала аўтараў усіх веравызнанняў і кірункаў, якія выступалі за нацыянальнае адраджэнне Беларусі. "Наша ніва" мела больш за 3000 сталых і часовых карэспандэнтаў у павятовых і губернскіх гарадах, мястэчках і вёсках Беларусі, у Літве, Маскве, Пецярбургу, Сібіры, за мяжой. "Наша ніва" адстойвала ідэю сацыяльна-палітычнага, эканамічнага і культурнага адраджэння Беларусі, супрацоўніцтва з іншымі народамі, выступала супраць самаджяржаўя. Тэматыка, змест і характар падачы матэрыялаў мяняліся ў залежнасці ад палітычнай сітуацыі і складу рэдакцыі. У газеце сумяшчаліся ліберальна-асветніцкія і рэвалюцыйна-дэмакратычныя погляды. У праграмным артыкуле 1-га нумара падкрэслена агульнанацыянальная пазіцыя газеты: "Наша Ніва" будзе другой беларускай газэтай – першая газэта "Наша Доля" не жывець: яна была надта нядоўго, бліснула, як маланка і згінула гдзесьці. Разумеем мы, як важна цяпер беларуская газэта, разумеем, якую вялікую работу яна можэ зрабіць. І дзеля таго мы будзем старацца, каб наша газэтка заглянула ўсюды, каб папала яна і пад стрэху беднай курнай хаты мужыка-беларуса. Не думайце, што мы хочэм служыць толькі ці панам, ці адным мужыкам. Не, ніколі не! Мы будзем служыць усему беларускаму скрыўджэнаму народу, пастараемся быць люстром жыцця, каб ад нас, як ад люстра, свет падаў у цёмнасць... Мы будзем браць усё ад усіх і, злажыўшы у парадок, зноў аддаваць. Ведайце добра, што "Наша Ніва" газэта не рэдакцыі, але ўсіх беларусаў і ўсіх тых, хто ім спагадае. Кожны мае права быць выслуханым на страніцах нашэй газэты і кераваць ёю, толькі каб было разумне. Мы з свайё стараны будзем старацца, каб усе беларусы, што ня ведаюць, хто яны ёсць, - зразумелі, что яны беларусы і людзі, каб пазналі свае права і памаглі нам у нашай рабоці.

Ня будзем пісаць громка. Будзем спакойне, цьвёрда кідаць усім праўду ў вочы, пастараемся быць церпялівымі і панаваць над сабою: нехай халодны розум моцна трымае ў сваіх руках гарачае сэрцэ... А цяпер прызываем усіх тых, хто разумее нашы цэлі, адчувае тое, што мы чуем, і захочэ нам памагчы. Падтрымайце нас у рабоце, што цяпер пачынаецца!» (Напісанне таго часу захавана).




"Наша ніва" спадзявалася на мірны і паступовы шлях да сацыяльнага прагрэсу праз дэмакратызацыю цэнтральных і мясцовых органаў улады, развіццё асветы, стварэнне ўрада, адказнага перад Дзяржаўнай думай, хутарызацыю і рацыяналізацыю сялянскай гаспадаркі, арыентацыю на парламенцкую буржуазную дэмакратыю.

Выступаючы супраць вялікадзяржаўнай палітыкі царызму і шавінізму польскіх абшарніцка-клерыкальных колаў, "Наша ніва" ў асобных выпадках прапагандавала ідэі адасобленасці жыцця беларусаў, бяскласавасці беларускай нацыі. Газета выкрывала антынародную палітыку царызму, пратэставала супраць урадавага і чарнасоценнага тэрору ў краіне, пісала пра эксплуатацыю і сацыяльнае бяспраўе рабочых і сялян, асвятляла вызваленчы рух, цяжкія ўмовы жыцця беларускіх эмігрантаў, выступала за ажыццяўленне асноўных дэмакратычных правоў (свабоду слова, друку, сумлення, грамадскіх арганізацый, свабоднае развіццё нацыянальных культур усіх народаў, тэрытарыяльную аўтаномію для Беларусі і інш.), за ўсеагульнае бясплатнае навучанне ў школе на роднай мове. Калі рэдактарам газеты стаў Янка Купала, яна крытыкавала сваю ранейшую абмежаваную праграму, падкрэслівала, што з нацыянальным рухам непарыўна звязана "справа сялянская і справа работніцкая", адзначала бесперспектыўнасць для малазямельнага сялянства ўрадавай палітыкі хутарызацыі, выкрывала імперыялістычную сутнасць Першай сусветнай вайны. У палемічных артыкулах, памфлетах і вершах "Наша ніва" выкрывала палітыку польскіх буржуазных нацыяналістаў і вялікарускіх шавіністаў, накіраваную на задушэнне беларускага нацыянальнага руху, выступала супраць антынароднага курсу рэакцыйных газет ("Минское слово", "Северо-Западная жизнь", "Виленский вестник" і іншыя).

Важнай задачай "Наша ніва" лічыла ўсебаковае развіццё духоўнай культуры беларускага народа, творчае засваенне здабыткаў фальклору і лепшых дасягненняў сусветнай культуры, арганічнае спалучэнне навукі, літаратуры, мастацтва са штодзённым жыццём народа.



081.78

Нод 1. Wilnia 10/23 listopada (nojabra) 1906 r. № 1

Nasza Niwa

PIERSZAJA BIEŁARUSKAJA HAZETA Z RYSUNKAMI

WYCHODZIĆ RAZ U TYDZIEŃ polskimi i ruskimi litera...

Adres redakcii i administracii: Wilnia, Balšzaja Pahulanka № 17.

Cena asobnaho numeru 5...

Cena z piesasyłkaju i dastaukaju da chaty na 1 hod—3 rub., na 6 miesiacou—1 rub. 50 kap., na 3 mies.—75 kap., 1 mies. 25 kap. Biez dastanki i pierasyłki: na 1 hod—2 r. 40 k., na 6 mies.—1 r. 20 k., na 3 mies.—60 kap., na 1 mies.—20 kap. Za hranicaju: na 1 hod—4 rub., na 6 mies.—2 rub., na 3 mies.—1 rub. Pieramiena adresu—20 kap.

Abjaŭlennia prymajucca na paslednlaj stranicy pa 20 kap. za liniejku małymi literami. Rukapisy i korespondencja, prysłanyje u redakcja, musiać być czytelnie napisany z prawdziwoju familjeju i adresom taho, chto jaje prysyłaje. Možna takož padpisać swaje prozwiszcze razom z familjeju, kali niezachoczecie, kab była nadrukowana wasza praudziwaja familja. Adres i familja, tolki dla wiedama redakcii.

Першы нумар «Нашай Нівы»

Толькі за першыя тры гады ў "Нашай ніве" было надрукавана 906 карэспандэнцый з 489 мястэчак і вёсак, 246 вершаў 61 паэта і 91 апавяданне 36 празаікаў. На старонках "Нашай нівы" ўпершыню пабачылі свет многія творы Янкі Купалы (паэмы "Курган", "Бандароўна", 170 вершаў і 30 артыкулаў), Якуба Коласа (125 вершаў, 40 апавяданняў і артыкулаў, урыўкі з паэмы "Новая зямля"), Максіма Багдановіча, Цёткі, Змітрака Бядулі, Цішкі Гартнага, Максіма Гарэцкага, Каруся Каганца, Уладыслава Галубка, Канстанцыі Буйло, Алеся Гаруна, Янкі Журбы, Гальяша Леўчыка і іншых прадстаўнікоў масавай рабоча-сялянскай літаратуры (вершы, апавяданні і нарысы В.Каршуна, Старога Уласа, Л.Лобіка, І.Пілілава і іншых).

"Наша ніва" садзейнічала станаўленню беларускага літаратуразнаўства (артыкулы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Цёткі, Максіма Багдановіча, Максіма Гарэцкага, Сяргея Палуяна і іншых), мастацтвазнаўства, тэатральнай і музычнай крытыкі. Супрацоўнікі газеты збіралі ўсе віды і жанры нацыянальнага фальклору, праводзілі навуковую працу ў галіне беларускага кнігадрукавання, стваралі тэатральна-музычныя гурткі, садзейнічалі станаўленню і папулярызацыі тэатра Ігната Буйніцкага, стварылі Беларускі музей у Вільні, прапагандавалі дасягненні беларускай культуры ў Расіі, Польшчы, Літве, на Украіне і за мяжой. "Наша ніва" зрабіла вялікі ўклад у развіццё беларускай літаратурнай мовы.

Янка Купала быў літаратурным супрацоўнікам, а ў 1914-1915 гадах – рэдактарам газеты. Якуб Колас у 1907 годзе ўзначальваў яе літаратурны аддзел. Змітрок Бядуля быў сакратаром рэдакцыі. Маральную падтрымку газеце аказваў Максім Горкі, быў яе падпісчыкам, лічыў, што яна дае чытачам "многа цікавага".

У газеце друкаваліся ў перакладзе на беларускую мову творы Льва Талстога, Антона Чэхава, Максіма Горкага, Тараса Шаўчэнкі, Адама Міцкевіча, Марыі Канапніцкай, Э.Ажэшкі, У.Сыракомлі, С.Жаромскага, адзначаны юбілеі Л.Талстога, М.Гогаля, Т.Шаўчэнкі, Ю.Славацкага, Ф.Шапэна, Ч.Дарвіна. "Наша ніва" выконвала і функцыі кніжнага выдавецтва. У 1907-1913 гадах апублікаваны зборнікі "Песні жальбы" і "Апавяданні" Якуба Коласа, "Вянок" Максіма Багдановіча, "Бярозка" Ядвігіна Ш., "Чыжык беларускі" Гальяша Леўчыка, перакладныя творы, беларускія календары, альманахі...

Кожны жыхар Беларусі мог знайсці ў "Нашай ніве" цікавыя матэрыялы са свайго павета, воласці, мястэчка, вёскі. Нямала заметак на старонках газеты было змешчана з Дзісенскага павета – Шаркоўшчыны, Глыбокага, Лужкоў, Германавіч, Іёдаў, Чарневіч, Празарок, Нова-га Пагоста і іншых мясцін.

Аўтары звычайна падпісваліся псеўданімамі: Баяравец, Германавец, Колішні Шышкавец, Задзісенкавіч і іншымі. Часта на старонках "Нашай нівы" выступаў Язэп Драздовіч. Ён падпісваў свае заметкі псеўданімамі: Забыты Язэп, Язэп Народнік, Язэп Нарцызаў, І.Разора, Я.Разора, Язэп Разора, Язэп (глядзі глядзі Янкі Саламевіча "Слоўнік беларускіх псеўданімаў і крыптанімаў", Мінск, "Мастацкая літаратура", 1983г).

Краязнаўчыя матэрыялы "Нашай нівы" і сёння дапамагаюць лепш ведаць гісторыю і культуру свайго народа, роднага краю і бліжэйшых мясцін.




Аздабленне першай старонкі «Нашай Нівы», якое распрацаваў Язэп Драздовіч

# Што змянілася ў Беларусі з Новага года

■ Sputnik Беларусь

З 1 студзеня дня на працягу шасці гадоў у Беларусі пачынае павышацца пенсійны ўзрост. Для мужчын ён складзе 60,5 гадоў, для жанчын - 55,5 гадоў. Павышаць пенсійны ўзрост будуць кожныя паўгода на працягу шасці гадоў, пакуль мужчыны не пачнуць выходзіць на пенсію ў 63, жанчыны - у 58. Разам з пенсійным узростам павышаецца і мінімальны страхавы стаж - гэта час працоўнай дзейнасці, пры якой чалавек выплачваў унёскі ў ФСАН. Калі страхавога стажу не хапае, чалавек можа разлічваць толькі на сацыяльную пенсію. Новы страхавы стаж складзе 16 гадоў - на шэсць месяцаў больш, чым раней. Кожны год мінімальны страхавы стаж стануць павышаць на 6 месяцаў, пакуль ён не дасягне 20 гадоў. Выходзяць з абарачэння «старыя» грошы ўзору 2000 года. На працягу двух гадоў іх можна будзе абмяняць ва ўсіх банках, а з 1 студзеня 2020 па 31 снежня 2021 года - толькі ў Нацбанку. З 1 студзеня ў Беларусі даражэе камуналка. Для сярэднестатыстычнай сям'і з трох чалавек, якая пражывае ў двухпакаёвай кватэры плошчай 48 квадратаў, паслугі ЖКГ вырастуць у цане прыкладна на 10 рублёў. На працягу года магчымы другі этап росту тарыфаў. У крамах з'явяцца цэннікі на прадукты за літр і кілаграм. Пакуль гэта новаўвядзенне з'яўляецца рэкамендацыяй, а з 1 ліпеня стане абавязковай. Зарэгістраваць шлюб зараз можна, не выходзячы з дому і па сваім сцэнары. У ЗАГСах дапоўнены пералік дадатковых платных паслуг, з'явіліся новыя 12 пунктаў: рэгістрацыя шлюбу па індывідуальным сцэнары або абрадзе, у хаце жаніха ці нявесты, у архітэктурных ансамблях, у бальніцах і інш. месцах. Памежную зону зараз можна наведаць бясплатна. Беларусы вызвалены ад выплаты дзяржпошліны за ўезд і знаходжанне ў памежнай зоне (раней яна складала 0,2 базавых велічыні). У Duty Free даражэюць алкаголь і цыгарэты. У аўтамабільных пунктах пропуску ў краіны Еўрасаюза ў крамах бяспошліннага гандлю адменены падатковыя льготы па продажы алкаголю і цыгарэт, кошт на іх наблізіцца да коштаў у звычайных крамах. Падатковыя льготы на такія тавары застануцца толькі ў Duty Free ў аэрапортах і партах. Правозіць хатніх жывёл у міжнародных цягніках стала прасцей. Уладальнікам гадаванцаў не трэба выкупляць усе месцы ў купэ. Калі памеры клеткі або пераноскі не перавышаюць па суме трох вымярэнняў 200 см, яе можна правозіць як ручную паклажу. Пры гэтым гаспадар абавязаны прадаставіць даведку ад ветэрынара аб здавальняючым стане здароўя гадаванца. Падатак на сабак больш не прывязаны да памеру гадаванцаў. За ўсіх сабак старэйшага за тры месяцы гаспадары цяпер заплацяць аднолькавую суму - 0,3 базавыя велічыні ў квартал (6,9 рубля). За гадаванцаў асабліва небяспечных парод - 1,5 базавай велічыні ў квартал (34,5 рубля). Зменены патрабаванні да змесціва аўтамабільных аптэчак. Са спісу змесціва аптэчкі зніклі таблеткі, у тым ліку валідол і нітрагіцэрын, але павялічана колькасць перавязачнага матэрыялу.

# У Віцебскай вобласці выраслі падаткі для прадпрымальнікаў

■ Ежедневник.by

**У Віцебскай вобласці стаўкі адзінага падатку для індывідуальных прадпрымальнікаў і фізічных асоб, якія здаюць у арэнду жыллё, з першага студзеня 2017 года выраслі на 12,6%.**

Пра змены карэспандэнту БЕЛТА расказалі ў інспекцыі Міністэрства па падатках і зборах па Віцебскай вобласці. Рашэнне аб павелічэнні падатку прынята абласным Саветам дэпутатаў 15 снежня мінулага года і ўступіла ў сілу з 1 студзеня 2017 года. Папярэдняе павышэнне ставак адбылося ў рэгіёне ў лютым мінулага года.

Як патлумачыла намеснік начальніка аддзела падаткаабкладання індывідуальных прадпрымальнікаў інспекцыі МПЗ па Віцебскай вобласці Вольга Ленькe, стаўкі адзінага падатку карэктуюцца штогод з улікам даходаў ІП і ўзроўнем коштаў. Спецыяліст таксама паведаміла, што ў гэтым годзе пашырыўся пералік відаў дзейнасці ІП. У спіс дадаліся два пункты - рамонт ручных электрычных, пнеўматычных і механізаваных прылад, а таксама бурэнне водных свідравін, добраўпарадкаванне і абслугоўванне ландшафтных тэрыторый, пакос траў і т. д.

Што тычыцца канкрэтных лічбаў, то, да прыкладу, у Віцебску за гандаль аўтамабілямі на гандлёвых месцах трэба будзе заплаціць 350 рублёў у месяц, за гандаль адзеннем са скуры і тэлевізарамі - 248 рублёў, за гандаль хлебам, малаком, гароднінай - 78 рублёў. Рашэнне аблсавету апублікавана на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале.

